

Газета заснавана ў 1938 годзе. Аднаўлена ў 1997 годзе.

МАСАВА-ПАЛІТЫЧНЫ ШТОТЫДНЁВІК

# Газета Слонімская

№37 (275) 12 — 18 верасня 2002г. Наклад 11.500 экз. Кошт 250 руб.

«ГАЗЕТУ СЛОНІМСКУЮ» ЧЫТАЮЦЬ
Слонім,
Зэльва,
Дзятлава,
Масты,
Ваўкавыск,
Шчучын,
Ліда,
Гродна,
Баранавічы,
іншыя гарады Беларусі,
а таксама на HTTP://gs.promedia.by

# РОДНАМУ ГОРАДУ — 750 ГОД




Фота Віталя ГІЛЯ

*Роднасць наша*
*Самая блізкая —*
*Слонім*
*І паланез*
*Агінскага.*
*Зоры на далонях*
*І над калыскаю,*
*Сон наш —*
*Слонім*
*І паланез*
*Агінскага.*
*Хвалямі Шчары*
*І кожнаю пырскаю*
*Мы адчуваем*
*Самае блізкае —*
*Слонім*
*І паланез*
*Агінскага.*

**Сяргей ЧЫГРЫН**



Фота Віталя ГІЛЯ



Фота Віталя ГІЛЯ



Курсы обмена валют в г. Слониме по состоянию на 15⁰⁰ 10.09.2002г.

| | Покупка | Продажа |
|---|---|---|
| **"Беларусбанк"** | | |
| 1 USD | 1840 | 1890 |
| 1 EURO | 1790 | 1840 |
| 1 RUR | 57 | 59 |
| **оао "Белпромстройбанк"** | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1840 | 1875 |
| 1 EURO | 1810 | 1845 |
| 1 ZL | 440 | 460 |
| 1 RUR | 57,2 | 59 |
| **"Белагропромбанк"** | Покупка | Продажа |
| 1 USD | 1840 | 1877 |
| 1 EURO | 1790 | 1820 |
| 1 RUR | 57 | 59 |
| **Нацбанк РБ** | | |
| 1 USD | 1854 | |
| 1 EURO | 1814,88 | |
| 1 RUR | 58,62 | |

ЮБІЛЕЙ

# СВЯТА ПАЧАЛОСЯ Ў РДК

**6 верасня ў Слонімскім РДК старшыня Слонімскага райвыканкама Мечыслаў Касцюк адкрыў свята, прысвечанае 750-годдзю першага ўпамінання Слоніма ў Іпацьеўскім летапісе.**



Фота Віталя ГЛЯ

*Свята з нагоды 750-годдзя Слоніма адкрыў старшыня райвыканкама Мечыслаў Касцюк*

Зала Дома культуры была амаль запоўнена слонімцамі і гасцямі. Сярод прысутных — старшыні і намеснікі старшыняў райвыканкамаў гарадоў-суседзяў Слоніма, былыя мясцовыя партыйныя босы, былыя старшыні Слонімскіх райгарвыканкамаў і сённяшнія кіраўнікі прадпрыемстваў і арганізацый горада-юбіляра. З Гродзенскага аблвыканкама павіншаваць слонімцаў з юбілеем прыехалі некалькі загадчыкаў аддзелаў на чале з намеснікам старшыні аблвыканкама Уладзімірам Мальцам. Уладзімір Міхайлавіч падараваў гораду вялікую крыштальную вазу і зачытаў віншавальны адрас ад Аляксандра Лукашэнкі. Дарэчы, як не дзіўна, а віншаванне было на беларускай мове. Па-беларуску яно было апублікавана і ў "Советской Белоруссии". Што, напрыклад, не скажаш пра многіх выступоўцаў на ўрачыстым пасяджэнні, якія прамаўлялі па-руску з рознымі фанетычнымі памылкамі. І намнога іншай адчувалася ў зале атмасфера, калі гучала наша сакавітая мова, бо на ёй можна цёпла і шчыра павіншаваць сваіх суседзяў, як гэта зрабілі прадстаўнікі Карэліцкага і Смаргонскага райвыканкамаў. А вось з вялікіх мінскіх чыноўнікаў з адміністрацыі прэзідэнта ў Слонім не прыехаў ніхто. Усе яны былі бліжэй да Аляксандра Рыгоравіча ў Полацку на "Дажынках". Нават не завітаў зямляк — міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя РБ Лявонцій Харужык, якога запрашалі і вельмі чакалі землякі. Але яму не да слонімцаў. Яго міністэрства ў апошні час трапіла ў няміласць да прэзідэнта.

Шчыра віншавалі з юбілеем Слоніма прадстаўнікі адміністрацый гарадоў-пабрацімаў з Польшчы і Расіі. А вось са знакамітых слонімцаў, якія прыехалі на юбілей, так нікому і не далі слова. А ў зале сядзелі доктар гістарычных навук Васіль Мялешка, член-карэспандэнт Нацыянальнай Акадэміі Навук Алег Лойка, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, літаратуразнавец Янка Саламевіч, кандыдат філалагічных навук, перакладчык Уладзімір Сакалоўскі і іншыя славутыя землякі.

Пасля ўрачыстай часткі адбыўся святочны канцэрт. А ўвечары быў фуршэт.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

УДАКЛАДНЕННЕ

У мінулым нумары "ГС" (№36 за 5 – 11 верасня) у матэрыяле "А кім бы яны былі без калгаса?" была выкарыстана цытата з ананімнага ліста, які прыйшоў з в.Паўлава Слонімскага раёна. Таксама ў газеце была змешчана сканіраваная частка ліста, у якой ішла размова пра прадпрымальніка з в.Навасёлкі Паўлаўская с/с Сяргея Рычардавіча Лагуціка. Такім чынам, Сяргею Рычардавічу была нанесена маральная знявага. У сувязі з гэтым "Газета Слонімская" прыносіць спадару Лагуціку свае прабачэнні.

ЗДАРЭННЕ

## ЗГУБІЛІ ПАДЧАС ЮБІЛЕЮ

**Тры дні весяліліся слонімцы, адзначаючы 750-гадовы юбілей роднага горада. А ў панядзелак раніцай некаторыя гараджане, прачнуўшыся, агледзеліся, што ў час скокаў і весялосці ў іх не аказалася многіх каштоўных рэчаў і грошай.**

Дык што ж згубілі слонімцы? Найперш, гэта — мабільны тэлефон, залатыя ланцужкі і завушніцы, партаманэт, кашалькі, розныя дакументы і г.д. Здзіўляе і тое, што акрамя рэчаў зніклі і грошы. І не было б крыўдна, калі б іх прапілі ці прагулялі, а то ж — згубілі. Найбольш было страчана амерыканскіх даляраў, беларускіх і рускіх рублёў, еўра, і нават знаходзілі італьянскія ліры, хаця яны ўжо нічога не варты. Верыцца, што тыя, хто знайшоў рэчы, верне іх уладальнікам.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

МНЕНИЕ

# РАЗМЫШЛЕНИЯ О ПРОШЕДШЕМ ПРАЗДНИКЕ

Несколько месяцев слонимчане жили ожиданием грандиозного праздника, посвященного 750-летию своего славного города. Наблюдали, как город хорошеет с каждым днем, обновляется на скорую руку, укутывается в асфальт. Неприметные и серые фасады исчезли, превратившись в разноцветные, отреставрированные. Некоторым зданиям особенно "повезло", так как их ремонтом занимались относительно богатые предприятия. Например, управление магистральных газопроводов под руководством Юрия Бессонова отремонтировало фасад здания учебно-производственного комбината, а Слонимский мясокомбинат в лице Олега Бердулы привел в порядок краеведческий музей. Получилось очень даже неплохо.


Фота Вольгі ШЫНКЕВІЧ

*Слонимчане собрались в центре отпраздновать юбилей*

И, как всегда, на подготовку празднования Дня города не хватило одного дня. Накануне праздника до самого позднего вечера рабочие белили, красили те здания, которые не успели подретушировать, да и асфальт в центре города, возле рынка, закатывали в самый последний день.

Итак, 6 сентября Слоним предстал перед многочисленными гостями, жителями значительно помолодевшим и похорошевшим. Празднование 750-летия началось. Однако для большинства слонимчан настоящий праздник начался днем позже, 7 сентября. Просто не всех же официально пригласили на торжественное открытие праздника в районном Доме культуры.

С самого утра слонимчане вышли в центр города, чтобы с головой окунуться в праздник. Некоторые, менее оптимистичные и, скорее всего, еще совсем трезвые, ворчали: "Это столько денег угрохали на праздник, лучше бы купили лекарства и оборудование для больницы". А какая-то женщина в толпе высказала свое предположение подруге: "Говорят, что зарплату задержат в этом месяце, потому что все деньги из бюджета пошли на праздник". Короче говоря, даже в такой день, как 750-летие города, многим было не до веселья.

Как известно, больше всех праздника ждут дети. В этот день маленьким слонимчанам предлагалось покататься на электромобилях, опробовать новые аттракционы в городском парке. Дети – народ непривередливый, поэтому, судя по радостным лицам, им очень понравилось в парке. Даже аттракцион "Эверест" не пустовал. На этот "памятник ручной терке" одновременно забиралось и спускалось по несколько ребят. Детям – весело, а родителям не надо платить за "удовольствие". Короче говоря, детишки вовсю праздновали 750-летие Слонима.

А ребята из центрального дома детского и юношеского творчества устроили на улице настоящее представление для маленьких слонимчан. Все вместе они играли в игры, рисовали на асфальте.

В тот праздничный день меня поразила 14-летняя Катюша, воспитанница Слонимского детского дома. Во время всеобщего веселья в парке, она стояла немного поодаль от своих одноклассниц. После моих долгих расспросов, в чем все-таки дело, почему такое грустное лицо в праздник, Катюша сказала: "На такие мероприятия нужно ходить с родителями". "И вообще, – сказала девочка, – сегодня как-то особенно остро ощутила, что меня никто нигде не ждет"... Тут, как говорится, без комментариев.

А праздник продолжался. Такого количества людей одновременно в одном месте в Слониме я еще не видела. Людской муравейник передвигался от стадиона "Юность", где было театрализованное мероприятие "Из прошлого – в будущее" до центральной площадки, на которой выступали "Сябры". В самый разгар праздника пошел дождь. Многочисленная толпа ринулась под навесы. И хорошо, что у нас в городе нет метро, а то, не дай Бог, могла бы повториться ситуация, как в Минске, на Немиге. Тогда в давке погибло более 50 человек.

Однако дождь не смог омрачить слонимчанам такой долгожданный праздник. Люди не расходились по домам, продолжали веселиться на столько, на сколько хватало денег и здоровья.

Ближе к девяти часам вечера народу в центре собралось так много, что невозможно было пройти. Люди танцевали, пели. И никто уже не обращал внимания, когда кто-то из певцов со сцены выкрикивал: "С праздником, СлонИм!", ставя ударение на последний слог. Хорошо, что хоть название города не путали. Мои знакомые рассказали историю, когда на юбилей города Костюковичи Могилевской области приехала известная белорусская группа, в разгар праздника солист стал орать в микрофон: "С праздником, Климовичи!" И так несколько раз. Пока толпа не стала гудеть от возмущения.

К 22.00 был салют. Народ пришел в восторг. Ну, а дальше каждая компания праздновала 750-летие города по собственному сценарию. И ничего, что почти все сценарии повторялись.

А мусора-то потом было! Весь центр Слонима был просто устлан пустыми бутылками, бумажками.

После полуночи народ стал разбредаться по домам, чтобы завтра снова прийти в центр для "продолжения банкета". А завтрашний день (8 сентября), как мне показалось, был очень похож на предыдущий. Все та же праздно снующая по городу толпа, увеселительные мероприятия, музыка...

Судя по задумчивым лицам многих слонимчан в понедельник, праздник удался на славу.

С 750-летием, Слоним! Пусть у твоих жителей на лицах почаще будет улыбка, а не раздражение и печаль.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**




*Леў Сапега са сваёй світаю*

ЮБІЛЕЙ

# АД САПЕГІ ДА "СЯБРОЎ"

**Кульмінацыяй свята стала тэатралізаванае прадстаўленне "З мінулага — у будучае" на стадыёне "Юнацтва", дзе сабралася не менш дзесяці тысяч слонімцаў і гасцей горада.**

Такой урачыстасці горад над Шчарай ніколі не бачыў. Як сказала адна жанчына: "Падобнага свята ў Слоніме не было ажно 750 гадоў!" І з ёю нельга было не пагадзіцца.

Праз тэатралізаваны паказ гледачы ўбачылі ўсю гісторыю Слоніма. Тут былі і рыцары, і Леў Сапега, і артысты тэатра Агінскага, і простыя слонімскі люд, і войны, і сённяшняе жыццё... Гістарычны паказ проста ашаламіў гледачоў сваёй цікавасцю, масавасцю і непаўторнасцю.

Са стадыёна свята зноў перанеслася ў цэнтр горада, дзе на цэнтральнай сцэне з канцэртнай праграмаю выступаў ансамбль "Сябры" і вядомы Анатоль Ярмоленка. Але, здалося, што папулярнасць "Сяброў" у апошні час падае. Іх кіраўніку трэба нешта мяняць, аднаўляць рэпертуар, ісці ў нагу з сённяшнім часам. Ансамбль застаўся на ўзроўні 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Намнога цікавейшым і арыгінальным быў канцэрт, у якім прымалі ўдзел маладыя эстрадныя артысты са Слоніма і Гродна. Пад іх песні і мелодыі танцавалі ўсе: і каму было 16, і каму даўно было за 50.

Святочная субота завяршылася прыгожым феерверкам і дыскатэкай. Здавалася, што ў цэнтр горада прыйшлі 52 тысячы жыхароў Слоніма, каб адпачыць за ўсе 750 нялёгкіх гадоў нашай гісторыі. Такое не забываецца...

Застаецца толькі падзякаваць усім арганізатарам за такі юбілей і прапанаваць штогод 6-7 верасня адзначаць Дзень нашага горада. Няхай не такога маштабу, але каб свята збліжала людзей любоўю да сваёй маленькай радзімы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**




*Спявае Анатоль Ярмоленка*




*Рыцары вярнуліся з "баёў"*




*"Немцы" у Слоніме*




*Слонімскі сцяг у паднябессі*

НАВІНЫ

## КАНВЕРТ, ПРЫСВЕЧАНЫ СЛОНІМУ

**Рэспубліканскае дзяржаўнае аб'яднанне "Белпошта" выпусціла каляровы маркіраваны канверт, прысвечаны Слоніму.**

На канверце намаляваны герб горада, галоўны фасад жылога дома, які знаходзіцца на вуліцы Янкі Купалы, 5 і быў пабудаваны ў 1905 годзе, а таксама тэкст: "Слоніму 750 гадоў". Аформіў канверт мастак В. Сташчанюк.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАБАЛЕЛАЕ

## ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ

**Разнастайна прайшло ў Слоніме свята горада. У многіх слонімцаў яно пакінула някепскае ўражанне, але, як часта ў нас бывае, не абышлося і без лыжкі дзёгцю. Такой лыжкай дзёгцю стала іржавая вада, якая ў нядзелю, ды й напярэдадні, цякла з нашых кранаў, у прыватнасці, на вуліцы Францыска Скарыны, дзе я жыву.**

Іржавая вада можа застаць слонімцаў знянацку ў любы час сутак. Яна асабліва любіць пацяшацца з тых, хто вырашыў асвяжыцца ў ваннай. Бывае, так плюхне, так плюне жаўцізною, што пасля і ў лазні немагчыма адмыцца. А колькі бялізны, колькі святочных кашуляў сапсавала яна гаспадыням! Але кіраўніцтву водаканала ў асобе Шкодава Васіля Васільевіча на гэта, відаць, напляваць. Ён аніколі не баіцца, а ў сваім утульным кабінеце адчувае сябе як у Бога за пазухай. Відаць, разважае так: людзі прывыкаюць да ўсяго — значыць, прывыкнуць і да іржавай вады. А мы ж яе выкарыстоўваем не толькі дзеля таго, каб памыць бялізну ці самому памыцца, але і п'ем у спякоту, гатуем ежу, паліваем агарод. Можа, яна, як агонь жалеза, загартоўвае нас, наша здароўе? У падобнае, канешне, не верыцца. Як сказала адна знаёмая, іржавая вада псуе ванную, посуд. А ўжо што казаць пра няшчасны жывы арганізм. Ды нашых гарадскіх бацькоў-камандзіраў падобная праблема мала цікавіць. Забыўся, робіць выгляд, што не ведае пра яе і шматлікі дэпутацкі корпус, які перад выбарамі шмат чаго каму паабяцаў.

Не ведаю, як у каго, а ў мяне склалася ўражанне, што іржавая вада (у большай ці меншай ступені) у Слоніме з кранаў цячэ пастаянна. Асабліва стараюцца насыціць нас ёю працаўнікі водаканала ў выхадныя і святочныя дні. Не хачу ведаць, чаму так здараецца, не цікавяць мяне апраўданні, хачу і ў будні, і ў святы ўжываць чыстую пітную ваду. Хачу не так, а за грошы, якія плачу спраўна, штомесяц за іржавую ваду, якая калечыць і псуе здароўе.

Некалькі слоў хацелася б сказаць пра аплату за карыстанне вадой. Чыноўнікі рознага рангу часта кажуць, што мала плоцім за камунальныя паслугі, у тым ліку за халодную і гарачую ваду. Таму перыядычна павышаюць цану. А хіба што-небудзь мяняецца ў лепшы бок? Не думаю, што нехта з простых слонімцаў гэта адчуў на сабе. Наадварот: становіцца ўсё горш. Узнікае і законнае пытанне: а куды ж дзяюцца нашыя грошы?

Можа, спачатку неабходна навесці парадак ва ўласнай гаспадарцы, а ўжо потым праводзіць рэформы ў галіне цэнаўтварэння. Інакш шмат народных грошай змые і праглыне іржавая вада.

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

ЮБІЛЕЙ

# ЛЮДЗІ ЗАБЫВАЛІСЯ ПРА ЎСЁ



Жыве Слонім!

**Адна жанчына сказала другой пры сустрэчы: "З 750-годдзем цябе!" — і пачула ў адказ: "Няўжо я так дрэнна выглядаю?!" І абедзве засмяяліся. Шчыра. Ад душы. Імі валодала ўсеагульная эйфарыя святкавання 750-годдзя Слоніма.**

І сапраўды, столькі ўсмешак на тварах людзей, столькі радасці, якіх на працягу першых суботы і нядзелі верасня горад, здавалася, не бачыў апошнія 750 гадоў свайго існавання.

Слонімцам і гасцям горада, як аказалася, якраз і патрэбна было свята, якое аб'ядноўвае ўсіх, надае пачуццё лучнасці, сваяцкасці. А яшчэ, свята горада — гэта нагода, каб хоць на нейкі час забыцца пра жыццёвыя клопаты і праблемы. І людзі весяліліся ад душы, забываючыся на ўсё.

Пасля першага, самага змястоўнага на розныя мерапрыемствы дня, на Першамайскай і прылягаючых да яе вуліц у цэнтры горада засталіся горы смецця і пустых бутэлек. Столькі бруду Слонім не бачыў, мабыць, таксама апошнія 750 гадоў. Так што размах працы прыбіральшчыкаў раніцай у нядзелю адпавядаў размаху народных гулянняў першага дня свята. А ўсяго, прыкладна, 30 кубічных метраў смецця было вывезена з цэнтра горада за два дні гулянкі.

Вяскоўцы, якія ў нядзелю "акупавалі" Першамайскую вуліцу імправізаванымі падворкамі сваіх калгасных гаспадарак, а таксама мастакі і майстры народных рамёстваў, якія размясціліся са сваім творамі там жа, смецця пасля сябе пакінулі значна менш. І наогул, 8 верасня святочны імпэт заўважна паслабеў. Бо і святы стамляюць. У першую чаргу, стамляюць тых, хто робіць свята – артыстаў, культработнікаў, мастакоў, арганізатараў і гандляроў, але стамляюць і публіку, якая карыстаецца іх працай. Таму, калі свята адшумела, вечарам у нядзелю на вуліцах заставалася, у асноўным, толькі моладзь.

Маладым яшчэ далёка да пахмелля.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

НАГОДА

# УШАНАВАЛІ ЯЗЭПА СТАБРОЎСКАГА

**У суботу, 7 верасня, на будынку Слонімскага раённага краязнаўчага музея была адкрыта мемарыяльная шыльда, прысвечаная беларускаму археолагу, краязнаўцу, гісторыку, філосафу, вынаходніку, заснавальніку мясцовага краязнаўчага музея Язэпу Стаброўскаму. Яе аўтар — слонімскі скульптар Леанід Богдан.**

На гранітнай пліце скульптар выбіў барэльеф Язэпа Стаброўскага з тэкстам: "Археолагу, заснавальніку Слонімскага музея Іосіфу Стаброўскаму" і бясплатна падараваў роднаму гораду. Дарэчы, гэта не першая мастацкая дабрачынная акцыя слонімскага скульптара. У свой час ён зрабіў і падараваў музеям і бібліятэкам Слоніма бюсты Валянціна Таўлая, Фёдара Кавалеўскага, Анатоля Іверса, Францыска Скарыны, Гражыны і іншыя мастацкія творы. У дзень 750-годдзя Слоніма Леанід Богдан увекавечыў памяць найвыдатнейшага сына зямлі Слонімскай Язэпа Стаброўскага.



Так праходзіла адкрыццё мемарыяльнай шыльды Язэпу Стаброўскаму

Мерапрыемствы з гэтай нагоды пачала дырэктар музея Ірына Шпыркова, якая расказала пра жыццё беларускага краязнаўца і гісторыка. Прафесар Алег Лойка быў добра знаёмы з Язэпам Стаброўскім. Алег Антонавіч прыгадаў сустрэчы з ім, а таксама тое, як аднойчы Стаброўскі падараваў яму "Гісторыю беларускай (крыўскай) кнігі" Вацлава Ластоўскага і сказаў, што яна яму ў будучым вельмі спатрэбіцца. Так яно і сталася. Сваё жыццё доктар філалагічных навук Алег Лойка звязаў з літаратурай і кнігай.

Мемарыяльную шыльду на будынку Слонімскага раённага музея ўрачыста адкрылі скульптар Леанід Богдан і намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Анатоль Цярэнін. Дарэчы, у гэтай урачыстасці прымалі ўдзел дачка Язэпа Стаброўскага і яго ўнук.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

# СУСТРЭЧА З ПІСЬМЕННІКАМІ ПРАЙШЛА НЕЗАЎВАЖНА

**Прызначанае на 11 гадзін 8 жніўня выступленне каля цэнтральнай раённай бібліятэкі слонімскіх літаратараў пачалося са спазненнем на паўгадзіны і прайшло ў прамым сэнсе вельмі ціха.**



Знаёмства з літаратурнай Слонімшчынай

Мерапрыемства не было забяспечана ўзмацняльнай апаратурай, а пачуць без мікрафона дэкламацыю вершаў, калі побач гучала музыка, было складана. Праўда, выстава кніг слонімскіх аўтараў і малюнкаў юных мастакоў прыцягвала да сябе ўвагу нешматлікіх аматараў прыгожага пісьменства і выяўленчага мастацтва.

Тым не менш, Іван Сяргейчык, Алена Руж, Тацццяна Трафімчык, а таксама юныя мастакі і паэты, якія ўдзельнічалі ў творчым конкурсе "Мой любы Слонім такі прыгожы і родны", на агульным фоне святочных гарадскіх мерапрыемстваў проста фізічна не мелі магчымасці, каб голасна прадставіць сваю творчасць.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

# ПЕРФОРМАНС АД АЛЕСЯ ПУШКІНА



Наперадзе — Алесь Пушкін

**У першы дзень святкавання юбілею Слоніма ў цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа адбыўся перформанс беларускага мастака Алеся Пушкіна. Такую сустрэчу з мастаком наладзіла слонімская моладзевая арганізацыя "Ветразь".**

Перад прысутнымі выступіў сам мастак, які расказаў пра форму сучаснага мастацтва, у аснове якога знаходзіцца дзеянне – перформанс. Дарэчы, у бібліятэцы пра Алеся Пушкіна і яго перформанс быў паказаны дакументальны фільм.

Пасля сустрэчы са слонімцамі Алесь Пушкін прадэманстраваў у цэнтры Слоніма свой чарговы перформанс. З партрэтамі былых сяброў Беларускай Незалежніцкай Партыі, якая была створана ў пачатку 40-х гадоў мінулага стагоддзя і змагалася за незалежнасць Беларусі, Алесь Пушкін і прыхільнікі яганай творчасці прайшліся па Першамайскай вуліцы. У руках удзельнікі мастацкага выступлення неслі партрэты Міхася Вітушкі, Сяргея Хмары, Тамары Чэрамшагінай, Усевалада Родзькі і іншых змагароў за вольную Беларусь. Цяпер гэтыя партрэты і іншыя карціны мастака Алеся Пушкіна дэманструюцца ў памяшканні нашай рэдакцыі. Менавіта тут, 6 верасня, адкрылася персанальная выстава карцін гэтага беларускага мастака-перформера.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

# ТВОРЧЫЯ ВЫСТАВЫ



На выставе было на што паглядзець

**8 верасня, падчас святочных урачыстасцяў слонімцы мелі магчымасць паглядзець і набыць творы некаторых мясцовых мастакоў і народных умельцаў.**

Выставы жывапісу мастака Уладзіміра Макарэвіча, керамікі (вырабы з гліны) Надзеі Салейка, вырабы з прыроднага матэрыялу юных умельцаў з гуртка пры падлеткавым клубе "Святліца" і іх настаўніцы Тацццяны Ісакавай найбольш прыцягвалі ўвагу гледачоў.

А вось мастак Станіслаў Славінскі ў прамым сэнсе працаваў не пакладаючы рук. У той дзень ён маляваў партрэты ўсіх жадаючых з раніцы да самага вечара.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

ПРАБЛЕМА

# ДАЛУЧЭННЕ ДА РАЙСПАЖЫЎСАЮЗА

**У Слоніме хочуць далучыць мясцовае рознічна-аптовае плодаагароднiннае прадпрыемства да райспажыўсаюза. Дзейнасць райспажыўсаюза добра вядома. Асабліва гэта бачна, калі наведваеш сельскія крамы з голымі паліцамі і беднасцю тавараў.**

Ды і работнікі гэтага "саюза" атрымліваюць малыя зарплаты і не спадзяюцца, што некалі зажывуць лепш за ўсіх, бо райспажыўсаюз пакуль застаецца стратным і з вялікімі фінансавымі праблемамі. Цяжка жывецца сёння і калектыву Слонімскага рознічна-аптовага плодаагароднiннага прадпрыемства (РАПП), але значна лепш, чым райспажыўсаюзу. Адзінае ў вобласці прадпрыемства РАПП штогод працавала стабільна з рэнтабельнасцю ў 2,27 % (1997 год), 4,23% (1999 год), 1,16% (2000 год), а вось сёлета страты склалі больш за 18 мільёнаў рублёў. Але калі б з ім своечасова разлічваліся бюджэтныя арганізацыі, вайсковыя часці, якія павінны 25,6 млн. рублёў, то гэтай страты не было б. Рэч у тым, што асноўнай задачай прадпрыемства з'яўляецца забеспячэнне дашкольных, лячэбных устаноў, воінскіх часцей і, вядома, насельніцтва Слоніма бульбаю і плодаагароднiнай.

"Яшчэ ў 1989 годзе па рашэнню Гродзенскага аблвыканкама было створана дзяржаўнае прадпрыемства "Агрaгандлёвая фірма "Шчара", у якую ўвайшло і РАПП, як самастойнае падраздзяленне па гандлю садавінай і агароднінай без юрыдычнага статусу. Але "Шчара" свае абавязкі не выконвала і вырошчваннем ранняй прадукцыі не займалася. Толькі ў мінулым годзе з запланаваных 150 тон садавіны і агародніны рознічна-аптовае прадпрыемства ад "Шчары" атрымала толькі 7 тон. Таму РАПП само шукала і завозіла прадукцыю з іншых раёнаў вобласці. Значыць, мы смела можам працаваць самастойна, і калектыў прадпрыемства згодны пайсці на гэта крок. Тым больш, што гэта дзве розныя формы ўласнасці. Можна і пажадана далучыць рознічна-аптовае прадпрыемства да якога-небудзь іншага гандлёвага прадпрыемства, але са стабільным фінансавым становішчам", — сказаў карэспандэнту "ГС" дырэктар рознічна-аптовага плодаагароднiннага прадпрыемства Вячаслаў Бусловіч.


*Вячаслаў Бусловіч: супраць далучэння*


*Мікалай Юрчык: за далучэнне*

Сустрэўшыся з калектывам гэтага прадпрыемства і задаўшы пытанне: чаму калектыў Слонімскага рознічна-аптовага плодаагароднiннага прадпрыемства катэгарычна не жадае далучацца да райспажыўсаюза, ад яго работнікаў пачуў адказ:

— Найперш таму, што амаль усіх нас, 52-х работнікаў, скароцяць і мы застанемся без працы. Мы добра ведаем, што райспажыўсаюз — гэта стратнае прадпрыемства з цяжкім фінансавым становішчам. І райспажыўсаюзу ад нашага прадпрыемства найперш патрэбна матэрыяльна-тэхнічная база: бульбасховішча на 1060 тон, два сховішча для агародніны на 2000 тон, квасільна-засолачны цэх на 550 тон, сем магазінаў, сем адзінак тэхнікі г.д. Таму і б'ем мы трывогу два месяцы. Звярталіся да былога старшыні райвыканкама Мікалая Пахолкі аб хадатайніцтве перад аблвыканкамам аб выхадзе прадпрыемства з саставу агратэхнічнай фірмы "Шчара" з правам юрыдычнай асобы. Звярталіся мы і да старшыні Гродзенскага аблвыканкама і да старшыні Слонімскага райвыканкама, каб разабраліся ў гэтай нашай сітуацыі. Але адтуль пакуль адказаў не паступіла, — адчайна гаварылі пры сустрэчы з журналістамі работніцы рознічна-аптовага прадпрыемства.

Усе кропкі над "і" можна было паставіць даўно: даць самастойнасць калектыву рознічна-аптовага прадпрыемства, і няхай яно спакойна працуе.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

ЮБІЛЕЙ

# ВЯСКОЎЦЫ І Ў СВЯТА ПРАЧЫНАЮЦЦА РАНА

**На другі дзень святкавання 750-годдзя Слоніма, 8 верасня, першымі на Першамайскай вуліцы былі вяскоўцы. З самага ранку працаўнікі сельскіх гаспадарак раёна пачалі рыхтавацца да імправізаванага агляду-конкурсу "Калгасны падворак".**

Былі прадстаўлены 19 падворкаў, якія сімвалізавалі сабой сялянскі быт. Саматканыя дываны, посцілкі, самыя розныя атрыбуты хатняй гаспадаркі прысутнічалі на ўсіх падворках. Іх гаспадары былі апранугы ў нацыянальным строі. Так што калгасны падворак больш сімвалізаваў традыцыйную вясковую хату, чым уласна калгас. Але сярод знешняга падабенства з іншымі, напрыклад, на падворку калгаса "1 Мая" прысутнічала возера з самымі сапраўднымі карасямі, якія да гэтага плавалі ў Сянкоўшчынскім возеры.

Музыкі і спевакі на кожным падворку на ўсе лады імкнуліся прыцягнуць да сябе ўвагу слухачоў. І на музычным фоне зноў жа выгодна вылучаўся калгас "1 Мая" — там іграў, спяваў і танцаваў вядомы мясцовы гурт "Грымата".

Вясковую гасціннасць па-сапраўднаму мелі магчымасць ацаніць намеснік старшыні Слонімскага райвыканкама Анатоль Цярэнін з групай работнікаў аддзела культуры, якія ў якасці журы наведаліся ў госці на кожны падворак. На працягу дзвюх гадзін, ад падворка да падворка, іх сустракалі песнямі і частавалі адметнымі стравамі і напоямі.


*Шылавіцкія жанчыны спявалі і танчылі пад гармонік і патэфон*

Пасля завяршэння агляду, вяскоўцаў чакала традыцыйнае фальклорнае свята "Дажынкі". У пачатку "Дажынак" з галоўнай юбілейнай сцэны горада на Першамайскай вуліцы да працаўнікоў сельскай гаспадаркі звярнуўся старшыня райвыканкама Мечыслаў Касцюк.

У сваім дакладзе Мечыслаў Браніслававіч адзначыў калгасы "Перамога", "1 Мая", імя Суворава, якія дабіліся лепшых паказчыкаў у сёлетнім жніве. Кіраўнік раёна назваў прозвішчы старшынь калгасаў-пераможцаў жніва і лепшых механізатараў. Але галоўнае слова было за артыстамі, якія падрыхтавалі для сельскіх працаўнікоў адмысловую канцэртную праграму.

**Мікола КАНАНОВІЧ, фота Віталя ГІЛЯ**

РАБОЧИЙ ВИЗИТ

# МАЛЬЦЕВ СЛОВ НА ВЕТЕР НЕ БРОСАЕТ

**В четверг, 5 сентября, министр обороны Беларуси генерал-полковник Леонид Мальцев провел в Слониме прием граждан по личным вопросам.**

Это была плановая поездка министра. Раз в месяц Леонид Семенович посещает регионы страны и встречается с людьми. В этот раз министр принял более тридцати пяти слонимчан.

Основным вопросом, с которым граждане обращались к генералу, был, как обычно, жилищный. Это и постановка на очередь на получение квартиры военнослужащих контрактной службы, и улучшение жилищных условий военных пенсионеров, и строительство дома для слонимских военных на улице Шоссейной. Кстати, в отношении этого дома Леонид Мальцев заверил, что начнется оно не позже следующего, 2003 года. До этого сроки определялись и 2001 годом, и 2002 годом. Стоит отметить, что деньги из министерства обороны в областной бюджет на эти цели выделялись исправно, а дома, как не было, так и нет.

Кроме жилищного вопроса, поднималась также проблема восстановления из запаса на военную службу, поскольку есть ряд офицеров, которые хотели бы служить в рядах вооруженных сил Беларуси. Но ранее они были уволены по различным причинам: по состоянию здоровья, по семейным обстоятельствам, по истечению сроков


*Министр обороны Беларуси Леонид Мальцев*

контрактов в российской армии.

Что-то решалось министром сразу же. По отдельным вопросам давались поручения командованию 11 механизированной бригады, представителям местной власти. Главное — не было пустых обещаний. Решения принимались конкретные. Если Леонид Мальцев был не в силах помочь, так прямо и говорилось. Потому что, как отметил командир 11 механизированной бригады полковник Николай Скобелев, присутствовавший на приеме, самое тяжелое для людей — обрести надежду, а, в результате, получается по-иному.

Министр обороны также проверил ход боевой подготовки в слонимской бригаде.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ДЕМОГРАФИЯ

# НЕТ СРЕДСТВ НА БРАТИКА

У 5-летней Кристины Говорушко из Слонима есть одна заветная мечта: чтобы мама родила ей братика, с которым, по словам девочки, она бы играла целыми днями. Однако у мамы Кристины, 32-летней Ольги Николаевны, свое мнение по этому поводу, сводящееся к одному не очень утешительному выводу: нет средств на то, чтобы вырастить еще одного ребенка.

"И так еле сводим концы с концами, поэтому заводить еще одного ребенка очень накладно. Если бы были средства, я бы родила еще троих деток. А так, зачем плодить нищету?" — говорит Ольга Николаевна.

Многие семьи, заботясь о будущем своего единственного чада, не рискуют взять на себя ответственность и обзавестись вторым ребенком.

На сегодняшний день Беларусь является страной с самым низким уровнем рождаемости в Европе и в мире. По данным за 2000 год, коэффициент рождаемости составлял всего 9,4 процента. Средний показатель в мире — 25 процентов, в Европе — 11 процентов. Такие данные содержатся в Национальном отчете о прогрессе в области устойчивого развития, подготовленного белорусскими экспертами совместно с ООН.

В динамике численности населения Беларусь перешла от прироста к потерям в 1995 году. На 1 января 2001 года в стране проживало 9 млн. 990 тысяч человек. В отчете отмечается, что увеличение численности жителей происходит только в городах, однако темпы роста ежегодно сокращаются. В 1997 г. уровень рождаемости снизился до предела, "которого не наблюдалось в демографической истории — 8,8 чел. на 1.000 жителей".

По словам исполняющей обязанности заведующей женской консультацией Светланы Грицкевич, сегодня в Слониме и районе 17613 женщин в активном детородном возрасте.

К сожалению, сегодняшняя экономическая ситуация в стране ставит многие семьи в рамки: один ребенок в семье и не больше.

И пятилетней слонимчанке Кристине Говорушко пока что не объяснить, почему родители не могут "подарить" ей братика.

**Ольга ШИНКЕВИЧ**

ПРЭМ'ЕРА

# НЯЛЁГКА БЫЦЬ ЧАРАЎНІЦАЙ

**У Слонімскім беларускім драматычным тэатры пачаўся новы тэатральны сезон. Літаральна на днях мастацкі Савет тэатра прыняў новы спектакль для дзяцей "Хачу быць чараўніцай" па п'есе рускага драматурга Н.Нячаевай. Яго паставіў рэжысёр Васіль Сявец.**

Героі казачнага спектакля — звычайныя насякомыя: бабуля Пчала, матылёк Мака, мураш Мур, трытон Трыт, страказа Стрыка, жук Жука і муха Жужа. Яны нікому не шкодзяць, разам гуляюць і адпачываюць. І, здавалася б, усё ў іх добра, калі б на іх палянцы не з'явіўся трытон Трыт, які хоча ўсім абламаць крыльцы і з'есці. Але, дзякуючы вопытнай бабулі Пчале, да гэтага справа не даходзіць...

У спектаклі шмат вясёлай музыкі, якую напісала Валянціна Пятрашка. Прыгожае афармленне сцэны і яркія касцюмы — заслуга Людмілы Шаўчэнка, Анжэлікі Бушланавай і Эвеліны Бабаш.

Новым спектакль "Хачу быць чараўніцай" хутка ўбачаць юныя гледачы Беларусі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Газета Слонімская
12 — 18 верасня 2002г. №37 (275)

ТВОРЧАСЦЬ

# АД ШЫМАНЧЫКА ДА ЯНУШЭВІЧА



*Фатограф Уладзімір Янушэвіч і старшыня Слонімскага райвыканкама Мечыслаў Касцюк распачынаюць выставу*

**У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі імя Язэпа Стаброўскага адбылася выстава фотаздымкаў Уладзіміра Янушэвіча "Слонім і людзі".**

Выставу ўрачыста адкрылі старшыня Слонімскага райвыканкама Мечыслаў Касцюк і Уладзімір Янушэвіч. Найбольш прываблівалі наведвальнікаў здымкі фотамайстра, на якіх адлюстраваны ваколіцы Слоніма, беларуская прырода з яе разнастайнасцю флоры і фауны. Ды і сам Уладзімір, як ён сказаў, больш любіць фатаграфаваць птушак, жывёл, старыя беларускія храмы і гарады. А нядаўна Уладзімір Янушэвіч пабываў у польскім горадзе Лодзь і гасціў у вядомага беларускага фатографа Юзэфа Шыманчыка. Спадар Шыманчык у 40-х гадах мінулага стагоддзя жыў у Слоніме, збярог да сённяшніх дзён негатывы і здымкі тагачаснага нашага горада і вялікі архіў здымкаў беларускага Палесся.

Нягледзячы на розны ўзрост, слонімскім фотамайстрам было аб чым пагутарыць у час сустрэчы. Бо абодвух іх аб'ядноўвае любоў да бацькоўскай зямлі і да фотасправы. Юзэф Шыманчык у гады вайны меў у Слоніме сваю фотамайстэрню, якую пры адступленні немцы спалілі. Сёння, нібы своеасаблівы працяг справы Шыманчыка, дзейнічае ў Слоніме фотамайстэрня Уладзіміра Янушэвіча "Графъ-фота". Так што, такое мастацтва, як фатаграфія, у Слоніме не павінна знікнуць.

**Сяргей ЧЫГРЫН**



*Слонім, 1943 г. Былая Раманоўская вуліца, цяпер вуліца Пушкіна*


*Уладзімір Янушэвіч і Юзэф Шыманчык падчас сустрэчы ў Лодзі*



*Слонім, 1943 г. Цэнтр горада*



*Слонім, 2002 г. Касцёл Святога Андрэя*



*Слонім, 1943 г. Від на касцёл Святога Андрэя*

НОВОСТИ

## РАЗМИНИРОВАНИЕ ПОД ВИТЕБСКОМ

**В районе деревни Селюты Витебского района проводятся работы по извлечению со дна реки Лучеса боеприпасов времен Великой Отечественной войны.**

По сообщению официального сайта Министерства обороны Беларуси, к 6 сентября водолазами, а это военнослужащие слонимской 11-й механизированной бригады, и саперами 317-й отдельной мобильной бригады поднято 116 мин и снарядов.

Всего же, по официальным сведениям, за 2002 год саперами белорусской армии обезврежено более 3 300 взрывоопасных предметов.

**Валерий КОВАЛЕНКО**

ЗДАРЭННІ

## БОЕПРЫПАСЫ НАСІЎ З САБОЙ

**Другога верасня міліцыя затрымала раней судзімага слонімца С. Пры вобыску ў яго былі знойдзены 20 патронаў да аўтамата Калашнікава.**

Наяўнасць боепрыпасаў мужчына патлумачыў тым, што проста іх знайшоў.

Але такое тлумачэнне не задаволіла работнікаў міліцыі.

Патроны былі адпраўлены на экспертызу, а іх уладальнік арыштаваны.

## МАГНІТОЛЫ ЗНІКАЮЦЬ З АЎТАМАБІЛЯЎ

**Крадзяжы магнітолаў з пакінутых на ноч на вуліцы аўтамабіляў здараюцца вельмі часта. Так ноччу 4 верасня знікла магнітола з прыватнага аўтамабіля на вуліцы Яршова.**

Уладальнік заявіў пра крадзеж у міліцыю. Але, як паказвае практыка, знайсці начных аўтамабільных злодзеяў бывае досыць складана. Таму, каб засцерагчы сябе ад крадзяжу, уладальнікам аўтамабіляў, якія застаюцца ноччу без нагляду, лепш не пакідаць у салонах магнітолы і іншыя каштоўныя рэчы.

## МАГАЗІН ПАКІНУЛІ БЕЗ РЭКЛАМЫ

**Работнікі магазіна "Усход", прыйшоўшы на працу 2 верасня, убачылі, што рэкламныя вывескі іх гандлёвай установы пашкоджаны. Пра што адразу паведамілі ў міліцыю.**

Па гэтаму факту праводзіцца праверка, але ворагі рэкламы пакуль не ўстаноўлены.

## ДЫВЕРСІЯ НА ГАЗАПРАВОДЗЕ

**Падчас рамонтных работ на адным з участкаў магістральнага газапravoда "Ямал – Еўропа" трэцяга верасня рабочыя выявілі, што нехта зрэзаў газавую выцяжную свячу ахоўнага патрона перахода праз чыгуначнае палатно.**

Кошт такой свячы складае 23 тысячы беларускіх рублёў. Да таго ж, была парушана бяспека эксплуатацыі газаправода.

Міліцыя займаецца пошукам злаўмыснікаў.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

## УДАКЛАДНЕННЕ

У матэрыяле "Што змаглі, тое і зрабілі" ("ГС" № 35) замест слоў "А да гэтага Віктар Чорны працаваў дырэктарам камвольна – прадзільнай фабрыкі" трэба чытаць "Віктар Чорны працаваў намеснікам дырэктара".

## СЕМЕНА РЕДЬКИ МАСЛИЧНОЙ – ЗЕЛЕНОЕ УДОБРЕНИЕ И ОЗДОРОВЛЕНИЕ ПОЧВЫ. ®

На пороге осень, на участках огородников дозревает урожай, но земледельцу не стоит забывать, что можно окультурить, обогатить почву органическими веществами, значительно улучшить ее состояние до следующего сезона, не допустить того, чтобы огород напоминал рассадник сорняков, распространяющий семена на свой и соседний участки. Содействовать этому призвана редька масличная – новое направление в агротехнологии в области оздоровления почвы и использования на зеленое удобрение. Заделанная в почву зеленая масса растения оказывает следующее воздействие:
- улучшает плодородие почвы, обогащая элементами питания;
- резко снижает засоренность участка, в том числе пыреем ползучим на 64%;
- в 1,5-2 раза снижает поражение растений последующих культур корневыми гнилями и нематодами;
- почти в 10 раз уменьшает загрязнение почвы и грунтовых вод нитратами;
- снижает кислотность почвы и улучшает ее структуру и т.д.

Редьку масличную на зеленое удобрение необходимо посеять в августе/начале сентября, когда повсеместно освобождается земля после уборки всех основных культур. Зеленую массу оставляют на зиму, не заделанной в почву.

В течение зимы растительная масса превращается в мульчу, покрывающую поверхность участка, способствуя снегозадержанию и накоплению запасов влаги.

По своему последействию заделка ее ранней весной равнозначна внесению 300 кг навоза на одну сотку. Семена редьки масличной реализует УП «Агропродукт: растительные масла» в различных регионах Беларуси. Семена расфасованы в бумажные пакеты по 2 кг.

Приглашаем к сотрудничеству организации и предпринимателей.
**Телефоны в Минске: 288-22-98, 288-19-87, в Слониме: 217-27, 25-341.**

